PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2121) Год XLII Беласток 5 студзеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Некаторыя людзі гавораць, што чым больш чалавеку гадоў, тым хутчэй бяжыць час. Здаецца, нядаўна віталі мы 1996 год, а ўжо навокал чуем, як усе шлюць сваім блізкім і знаёмым пажаданні поспехаў і добрага здароўя ў 1997 годзе. Прыемна глядзець на свет, у якім людзі хацелі б бачыць іншых людзей выключна шчаслівымі і здаровымі.*

*Ведаем аднак, што жыццё бывае даволі складаным і што ў кожнага з нас будуць у 1997 годзе дні, гадзіны, хвіліны вельмі шчаслівыя і менш удалыя. Мы жадаем Вам, Дарагія Чытачы, каб гэтых першых было як найбольш, а другіх — як найменш, каб спаткалі Вы на сваёй жыццёвай дарозе людзей ветлівых, разумных і добрасумленных, каб збыліся мары ўсіх тых, што чакаюць здароўя, любові, сяброўства, славы, прызнання ці грошай.*

*Жадаем таксама спакойных і радасных Калядных свят, каб пасланне, якое з іх выплывае, спадарожнічала Вам у Новым 1997 годзе.*

*Рэдакцыя*

## Беларускі каляндар 1997

☞ стар. 6-7

# Мы прачыталі

*Adwokaci niechętnie mówią o swoich zarobkach m.in. dlatego, że wielu z nich rozlicza się z klientami pod stołem, z pominięciem urzędu skarbowego. W sprawach związanych z obrotem gospodarczym stawki płacone adwokatom bywają umowne. Ponieważ klientami są firmy prywatne, często zagraniczne, w grę wchodzą olbrzymie pieniądze (godzina pracy z klientem kosztuje od 100 do 300 dolarów, a w przypadku firmy zagranicznej 400 dolarów). Ponieważ adwokaci prowadzą naraz zwykle kilkanaście spraw, zarobki w wielkich kancelariach dochodzą do 20, a nawet 100 tysięcy złotych miesięcznie.*

*Polityka, nr 50 (1996 r.)*

Толькі судзіцца!

* * *

*W zeszłym roku kościoły i związki wyznaniowe sprowadziły bez cła 1 836 samochodów, z tego 1 309 Kościół katolicki. Ulubionym autem proboszczów i wikariuszy jest volkswagen.*

*Gazeta Wyborcza, nr 292 (1996 r.)*

* * *

*Między białostockim Ruchem Odbudowy Polski a służbami prezydenta Łukaszenki nie ma różnicy,* — сказаў дзеяч „Салідарнасці" Здзіслаў Панасэвіч.

*Gazeta w Białymstoku, nr 292 (1996 r.)*

* * *

*„Solidarność" rozważa akcję obywatelskiego nieposłuszeństwa, polegającą na niepłaceniu podatków i składek ZUS. Akcja ma być protestem na liberalizację ustawy antyaborcyjnej. Pomysł aby nie płacić podatków, jeżeli mogą one być wykorzystane niezgodnie z sumieniem podatnika, nie jest zły. Daje to obywatelom pełną swobodę płacenia lub nie. Zgodnie z tą logiką podatnik może odmówić także płacenia świadczeń na rzecz katechetów w szkołach, dofinansowania Ursusa, Stoczni Gdańskiej i kopalń. Pacyfiści powinni odmówić płacenia na obronę narodową, a przeciwnicy wychowania seksualnego na edukację. Granicą jest tylko pojemność własnej wyobraźni i sumienia.*

*Polityka, nr 50 (1996 r.)*

* * *

*На Бабруйскай футравай фабрыцы выконваюць заказы для амерыканскай арміі. Ужо пашылі і адправілі ў Амерыку дзве тысячы зімовых галаўных убораў.*

*Голас Радзімы, н-р 50 (1996 г.)*

Імперыялістычныя генералы будуць насіць на галовах беларускія сацыялістычныя шапкі. Жах!

* * *

*Труднее найти хорошую доярку или рабочего, чем премьер-министра,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, прэзідэнт Беларусі.

*Свабода, н-р 94 (1996 г.)*

* * *

*Twierdzenie, że Łukaszenkę popiera naród, jest pozbawione sensu. Większość społeczeństwa popierała Hitlera, większość — zapewne 120 proc. — opowiada się za Saddamem Husajnem. W centrum Europy przeprowadza się eksperyment polegający na ogłupianiu ludzi. Czy w takiej sytuacji można mówić, że naród coś wybiera,* — сказаў Зянон Пазьняк.

*Wprost, nr 50 (1996 r.)*

Народ выбірае прэзідэнта, а прэзідэнт выбірае народ.

* * *

*Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі збіраецца купіць у Паўночнай Карэі чарговую партыю дубінак.*

*Свабода, н-р 93 (1996 г.)*

Гэта зусім сэнсоўная пакупка. Тавар напэўна пападзе ў адпаведныя рукі.

* * *

*Амерыканская прэса піша, што панам Лукашэнкам захапляюцца грамадзяне Беларусі, ён карыстаецца адназначнай падтрымкай па прагматычных матывах. Адна паважаная жанчына — піша „Уолстрыт Джорнэл Юэрэп" — плакала, калі гаварыла, што Лукашэнка збавіць краіну ад бед. Касірша ў магазіне сказала амерыканскаму карэспандэнту, што апазіцыя толькі яму перашкаджае.*

*Народная газета, н-р 310 (1996 г.)*

Апазіцыя гэта зусім непатрэбная з'ява ў кожнай дэмакратычнай краіне.

* * *

*Зямлі патрэбны гаспадар, а не ўладальнік,* — сказаў старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Беларусі Георгій Кузняцоў.

*Звязда, н-р 280 (1996 г.)*

* * *

*Zatrudnieni „na czarno" stanowią około 18 proc. wszystkich pracowników firm prywatnych. Pobierają oni najczęściej zasiłek dla bezrobotnych i nie płacą ZUS-u. W opinii przedsiębiorców zapotrzebowanie na takich pracowników wzrasta i będzie wzrastać.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 294 (1996 r.)*

* * *

*Ksiądz Rydzyk twórca i dyrektor Radia Maryja na spotkaniu w Bydgoszczy mówił, że polski parlament i hitlerowski zbrodniarz to jedno i to samo. Posłów i senatorów porównał ze zwierzętami.*

*Polityka, nr 51 (1996 r.)*

Ніводзін пасол ні сенатар не папрасілі прабачэння ў ксяндза Рыдзыка, што выклікаюць у яго сваёй асобай такое хваляванне. А грэх так дакучаць святому чалавеку.

* * *

*Prezydent Mobutu Sese Seko wraca do zdrowia,* — інфармуе

*Gazeta Wyborcza, nr 294 (1996 r.)*

У Афрыцы зноў будзе весела!

# З мінулага тыдня

**У Генеральным консульстве Рэспублікі Польшча ў Гродне** адбылася чарговая сустрэча беларускіх і польскіх бізнесменаў, арганізаваная Польска-літоўскай гаспадарчай палатай і Гродзенскім аддзяленнем Беларускай гандлёва-прамысловай палаты. На гэты раз у консульстве сустрэліся прадстаўнікі мэблевай галіны з Беластока, Варшавы, Лодзі, Сувалак, а таксама з Гродзенскай, Брэсцкай, Віцебскай і Менскай абласцей. Бізнесмены абмеркавалі пытанні паставак мэблі і матэрыялаў, з якіх яны выбляюцца, стварэння сумесных прадпрыемстваў. Многія знайшлі выгадных партнёраў. Практычным вынікам сустрэчы павінна стаць заключэнне кантрактаў.

**Асобы**, якія пацярпелі ад III Рэйху падчас II сусветнай вайны, у першым квартале 1997 года атрымаюць дадатковую кампенсацыю ад Польска-нямецкага фонду „Прымірэнне". Старшыня Упраўлення фонду **Анджэй Будзынскі** праінфармаваў, што былыя вязні канцлагераў атрымаюць пад 1,5 тыс. зл., а прымусовыя рабочыя — каля 400 зл. Зняволеныя рабочыя, якім было тады менш за 16 гадоў, дастануць каля 320 зл. Права на атрыманне кампенсацы прыслугоўвае амаль паўмільёну чалавек, якія ўжо раней атрымалі выплаты. Ад іх не патрабуюцца дадатковыя заявы ў гэтай справе.

**Трынаццаць жыхароў Беласточчыны** былі ўзнагароджаны медалямі „Справядлівы сярод народаў свету", які прысвойваецца інстытутам нацыянальнай памяці Яд-Вашэм у Іерусаліме за дапамогу яўрэям падчас II сусветнай вайны. Медалі і ганаровыя граматы ўручыў пасол Ізраіля ў Польшчы **Гершан Зохар**. У ліку ўзнагароджаных апынулася **Валянціна Паўлючук** з Нарвы, тады 10-гадовая дзяўчынка, бацькі якой прынялі і перахавалі 12-гадовага **Арые Вахта**. Згаданы медаль — адзіная ўзнагарода, якая прысвойваецца Ізраілем грамадзянам чужых дзяржаў. Да гэтай пары атрымалі яго 13,5 тысяч чалавек з розных краін свету, у тым ліку каля 5 тысяч грамадзян Польшчы.

**Каля тысячы земляробаў Беласточчыны** фіктыўна прымаюць на працу асоб, якія пасля паўгадовага тэрміну набываюць права на атрыманне гадавой дапамогі на беспрацоўе, — заявіў **Юзэф Маліноўскі**, шэф беластоцкай паліцыі працы. Такі „промысел" быў выяўлены ў ваколіцах Саколкі і Дубровы-Беластоцкай. Менавіта там службы занятасці насельніцтва зафіксавалі раптоўны рост ліку асоб, якія карыстаюцца дапамогамі для беспрацоўных. Праверана ўжо некалькі дзесяткаў такіх выпадкаў, а вінаўнікі правапарушэнняў былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Найчасцей работадаўцамі „прымаюцца на працу" пляменнікі або суседзі, якія самі адводзяць ад фіктыўных заробкаў сапраўдныя падаткі і складчыны ЗУС. У прынцыпе маім такога ашуканства бывае „добрае сэрца" селяніна.

**Грамадска-навуковая рада Белавежскай пушчы** падтрымала намаганні мясцовых надлясніцтваў у справе абмежавання высечкі дрэў. Так званая планавая высечка складае толькі 20% здабываемай драўніны. Рэшта — гэта санітарныя і выпадковыя (бураломы і снегаломы) рубкі. Яшчэ 10 гадоў таму пад тапор ішло ўдвая больш дрэў. Абмяжоўваючы высечку, леснікі стараюцца вывозіць драўніну больш экалагічнымі метадамі. Напрыклад, надлясніцтва Броўск купіла шведскі цягач „Forwarder" са спецыяльнымі шырокімі гумовымі коламі, якія не нішчаць падсціллу і не калечаць дрэў.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Пра з'езд Асацыяцыі беларускіх журналістаў і завяршэнне конкурсу „Беларускія пейзажы".
- Пра таямніцу старой капліцы ў Падбеллі.
- Пра палітыка ў Гайнаўскім беларускім ліцэі.

# Весткі з Беларусі

**Новыя пасольствы**

Яшчэ ў мінулым годзе Міністэрствам замежных спраў былі запрошаны сродкі на адкрыццё пасольстваў Рэспублікі Беларусь у Югаславіі, Турцыі ды Індыі. Акрамя таго міністэрства лічыць мэтазгодным набыць будынкі для беларускіх дыпламатычных місій у Японіі, Італіі і Канадзе.

**Новы шэф Менгарсавета**

Уладзімір Папкоўскі выбраны старшынёй Менскага гарадскога савета дэпутатаў. Займаў ён пасаду намесніка старшыні Цэнтральнага райвыканкама Менска. Галоўным сапернікам новага кіраўніка Менскага гарсавета быў вядомы палітычны дзеяч, былы пасол РБ у Варшаве Георгій Таразевіч. Аднак у выніку галасавання ён аказаўся другім.

**Чарговая перарэгістрацыя**

Да 1 студзеня 1997 г. усе замежныя і сумесныя прадпрыемствы, што дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, а іх амаль тры тысячы, павінны былі прайсці перарэгістрацыю. Аднак паводле даных Міністэрства знешнеэканамічных сувязей на пачатак снежня мінулага года перарэгістрацыю прайшлі толькі каля 11% прадпрыемстваў з замежным капіталам. Няглядзячы на гэта тэрміны перарэгістрацыі падоўжаны не былі. Не выключана, што ў новым годзе будзе разглядацца пытанне аб ліквідацыі прадпрыемстваў, якія не выканалі патрабавання аб перарэгістрацыі.

**Дзень сыраеда**

На велізарнай прасторы Супольнасці Расея—Беларусь брэсцкія сыры прызнаны лепшымі. Гэта пацвердзіў чарговы штогадовы агляд-конкурс, які нядаўна прайшоў у Брэсце. У так званым „Дні сыраеда" прымалі ўдзел сем заводаў канцэрна „Мясамалпрам", а сырод журы былі прадстаўнікі расейскіх фірмаў. Ужо сёння каля 70% брэсцкіх сыроў купляе Расея, але гатова купляць і больш. Абсалютнае першае месца занялі сыраробы з Пружанаў.

**Незвычайная прадукцыя**

Цэх па вырабу колавых павозак для святочных выездаў адкрылі ў калгасе „Кастрычнік" Глыбоцкага раёна. Незусім звычайная прадукцыя карыстаецца попытам не толькі ў сваёй гаспадарцы, але і ў суседніх. Заказы паступілі таксама з Оршы, Магілёва. А зімой брыгада пачала ладзіць сані, у якіх будуць выязджаць казачныя героі на навагоднія і каляндныя святы.

**Свята кінематаграфістаў**

17 снежня адзначаўся Дзень беларускага кіно. Гэтае свята праводзіцца ўжо трэці раз, а ўсталявана яно ў 1994 годзе з выпадку 70-годдзя з дня ўтварэння кінастудыі „Беларусьфільм". Дню беларускага кіно была прысвечана прэс-канферэнцыя, на якую прыйшлі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Анатоль Красінскі, генеральны дырэктар „Беларусьфільма" Іван Калінка, вядомыя кінадзеячы.

**„Стану песняй у народзе"**

Гэтымі радкамі з верша Цёткі (Алаізы Пашкевіч) названа вечарына, якую ў Доме літаратара ў Менску наладзіў Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай і Саюз беларускіх пісьменнікаў з выпадку 120-годдзя з дня нараджэння паэтэсы. Яе асоба і творчасць паранейшаму хвалююць і вабяць чытача, натхняюць на даследаванне вучоных і літаратараў. Нядаўна з друку выйшаў раман Валянціны Коўтун „Крыж міласэрнасці", прысвечаны Цётцы. У вечарыне прынялі ўдзел многія пісьменнікі і землякі паэткі, а таксама тэатр „Жывое слова" і ансамбль „Харошкі".

**Спектакль пра Луцкевіча**

Да 115 гадавіны з дня нараджэння Івана Луцкевіча тэатр „Зніч" падарыў гледачам спектакль „Пра каханне". Гледачы, якія трапілі на прэм'еру 15 снежня 1996 г. даведаліся аб рамантычнай гісторыі кахання Юліі Менке і Івана Луцкевіча, а таксама пра апошнія дні жыцця гэтага выдатнага дзеяча. У ліку тых, хто апладзіраваў актрысе Галіне Дзягілевай былі ў гэты дзень і прадстаўнікі беларускай дыяспары з Вільні, для якіх імя Луцкевіча дорага ўжо таму, што ён жыў у гэтым горадзе. У Вільні 75 гадоў таму на базе прыватнай калекцыі Івана Луцкевіча быў заснаваны вядомы Музей беларускай культуры, які існаваў да 1945 года.

# Найдаражэй на свеце

Могілкі ў Вэрстоку. Гэта прыпушчанская, адміраючая вёсачка на Дубіччыне. Там сустрэнеце шыкарны, мармуровы помнік з кранальным надпісам:

БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ
ТЫ ДАРАЖЭЙ УСЯГО
НА СВЕЦЕ

Помнік пастаўлены ў гонар Еўдакіі Германюк.

Кім жа была гэтая жанчына? — будзеце думаць, дадумвацца. У нас жа толькі для пісьменнікаў ставяць помнікі з такімі надпісамі. А тут, — скажуць вам вяскоўцы, — спачывае вясковая жанчына з Доўгага Броду, маці аднаго пана, што ў Польшчы жыве.

У 44 нумары „Нівы" за 1996 год Ада Чачуга пісала пра Пятра Германюка, юрыста з Аўгустова. Гэта па яго ініцыятыве стаіць помнік з беларускім надпісам на вэрстоцкім могільніку. У такіх месцах зраджаецца думка, што ўсё ж жыве і ў нас Беларусь! У памяці і сэрцах людзей, у роднай мове.

Беларусы, як і іншыя народы, кахаюць сваё роднае — зямлю, бацькоўдзяцей. Іншая справа, што нялёгка быць патрыётам народа, які пазбаўлены свайго нацыянальнага жыцця.

— Людзі хіляцца, куды вецер павее, — сказаў аднойчы жыхар апалячанай ужо Дуброўшчыны.

Усё часцей прыходзіцца мне збіраць матэрыял для рэпартажу на могілках. Бо могілкі — гэта след мінуўшчыны, які сведчыць пра людзей і іх культуру. Мемарыяльныя дошкі паказваюць узровень пісьменнасці.

Беларусы — праваслаўныя, каталікі, пратэстанты, вясковыя і гарадскія — прыпісаны да чужой культуры. Цяжка зразумець у такім месцы, навошта ўвогуле прыдумана літаратурная беларуская мова?

— Людзям усё роўна, на якой мове падпішаш ім крыж, — гаворыць знаёмы каменячос Ян М.

— І мне ўсё роўна, — дадае ён. — Здараецца, што людзі заказваюць помнік і нават не скажуць, на якой мове ім патрэбны надпіс. Найважнейшае, каб здымак прыгожа выйшаў!

За пятнаццаць гадоў працы ў каменячоснай справе Ян М. ні разу не сустрэў людзей, якія заказалі б у яго дошку з беларускім надпісам.



*Помнік Еўдакіі Германюк на могілках у Вэрстоку.*

Усё ж здзіўляе прывязанасць да роднай зямлі многіх беларусаў.

— Няма большага гора, як паміраць на чужыне, — гавораць паэты і эмігранты.

— Выхадцы з нашай Беласточчыны, якія жывуць у польскім асяроддзі — у Сувалках, Вроцлаве, Гожаве — прысылаюць мне лісты, — кажа святар з Кленік Аляксандр Высоцкі. Пішуць, што хочуць скласці свае косці ў роднай зямельцы (чытаем у артыкуле А. Вярбіцкага „У Кожыне будзе дом для састарэлых", „Ніва" н-р 49 за 1996 г.).

Ці можа быць яшчэ большы прызнак патрыятызму? Могілкі — гэта ж найдаражэйшы кусок нашай Бацькаўшчыны.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Могільнік у Кнарыдах.*

# Каляды ў казарме

У маёй памяці захаваўся вобраз куцці, якая ў дзяцінстве спраўлялася ў бацькоўскім доме, калі на пахучым сене на стале, прыкрытым белым, льняным абрусам з'яўляліся стравы, пра смак якіх толькі можна цяпер марыць. Дома, на панадворку, на вуліцы сапраўды адчуваўся настрой нечага незвычайнага, нейкай важнай падзеі, якую ўсе чакалі.

Невядома чаму, але таксама запамяталася мне куцця 1981 года, якую прыйшлося правесці ў казармах афіцэрскай школы ў Эльблангу. Тады ніхто з салдат не атрымаў пропуска, нават тыя, якім да хаты было ўсяго чатырыста метраў. Танкі на вуліцах, гук выстралаў, раздзіраючых начную цішыню, стваралі асаблівую атмасферу ў горадзе. Сярод выпускнікоў амаль усіх універсітэтаў Польшчы, якія служылі ў маёй роце, шмат было такіх, якія толькі што ажаніліся, некаторыя чакалі нашчадкаў. Тое, чаго яны найменш хацелі — гэта бараніць з аўтаматам у руках сацыялізм, партыю і пралетарскі інтэрнацыяналізм. У каталіцкія Каляды салдаты амаль перасталі гаварыць паміж сабою. Думкамі ўсе былі ў іншым месцы.

Такой колькасці харчоў, якая тады з'явілася на сталах гарнізоннай сталовай, я ніколі не бачыў нават дома. На белых як снег абрусах гарэлі свечкі. Палкоўнікі, маёры, капітаны таксама не пайшлі вячэраць са сваімі сем'ямі, але селі за сталы разам з падхарунжымі. Усё-такі атмасфера больш напамінала хаўтуры, чым радасныя калядныя святы. Нейкі час усе елі ў поўным маўчанні. Апрача афіцэраў, якія нечага там жадалі салдатам з нагоды свята, ніхто не адазваўся. Толькі пры канцы гэтай дзіўнай куцці трое падхарунжых расплакаліся як дзеці, а камандзіры не надта ведалі, як захавацца ў такой незвычайнай сітуацыі.

Пасля каталіцкіх Каляд выпускнікоў нашага курса паслалі на практыку ў лінейныя падраздзяленні, якія тады акурат папоўніліся запасам. Я разам з шасцю калегамі трапіў у Лідзбарк-Вармінскі. У старых будынках, дзе да вайны была школа унтэр-афіцэраў гітлераўскай гвардыі СС, чамусьці не працавала ацяпленне. Вада замярзала, незамярзаючых напіткаў купіць было немагчыма. Ідучы спаць, мы здымалі толькі боты. Найгоршае, аднак, было тое, што набліжаўся Новы год і мы маглі яго прывітаць толькі дымам з папяросы. Аднак мы заўважылі, што многія салдаты запаса ледзь трымаюцца на нагах. Беспраблемна ўдалося нам абмяняць пару пачак „папулярных" на літр самагонкі. Смакавала яна нам лепш, чым шампанскае на студэнцкім навагоднім балю.

6 студзеня апрача мяне пэўна ніхто ў гарнізоне не ведаў, што ў гэты дзень святкуецца яшчэ нейкая куцця. Ранкам у сталовай кухары, як звычайна, ганялі пацукоў, якія нахабна пхаліся да кошаў з хлебам, вечарам іх п'яныя памочнікі, жаўнеры запаса, бруднымі рукамі клалі салдатам з чарговых ротаў сыр і кашанку ў бляшаныя міскі. У поўнай гармоніі з вобразам гэтага рэсторана быў арамат, які разыходзіўся ад сотняў недамытых мужыкоў. Была гэта куцця, калі я не быў у змозе нічога праглынуць апрача кавы.

**Васіль Кургановіч**

# Каляды і Новы год

Рыбалаўскі настаяцель **а. Рыгор Сасна**, якога я запытаў пра калядную традыцыю ў доме святара, не адказаў адразу.

— Тут найбольш кампетэнтнай асобай будзе мая матушка Антаніна, — вырашыў ён.

Матушка Антаніна, рад-няволя, затужыла ўспамінам па гадах маладосці і сваёй роднай вёсцы Рудуты ў Арлянскім прыходзе.

— У нас на каляднай вячэры, — пачала расказваць матушка, — заўсёды мусіла быць куцця, варылі таксама кампот з засушаных яблыкаў, кісель з аўса, смажылі посныя аладкі, рыхтавалі селядцы... Вы малады чалавек, а куццю сёння рыхтуюць *па-навачэснаму*, дадаючы да яе і мёд, і мак, і арэхі... Вам, напэўна, цікава было б пабачыць, як выглядае традыцыйная куцця.

Тут матушка Антаніна схадзіла на кухню і прынесла ачышчанае ячменнае зерне.

— Гэта ёсць найсапраўдная куцця.

— Куцця, — уключыўся а. Р. Сасна, — мае сваё глыбокае метафарычнае значэнне. Яна нагадвае нам пра нараджэнне новага жыцця. Гэта падобна, як і з яйкам на Вялікдзень. Зерне трэба кінуць у зямлю, каб даць пачатак новаму жыццю. Звярніце ўвагу, што куццю ставіцца таксама пры адслужэнні паніхіды за пакойніка, дзе яна таксама нагадвае пра новае жыццё. Чалавек, паміраючы, не завяршае жыцця цалкам, а ўсяго распачынае новы яго этап.

— На першы дзень свята, — цягнула далей матушка, — ніколі ў нас не ладзіліся *забавы*. Яны, як прынцып, адбываліся другога дня.

— У гэтым няма нічога надзвычайнага, — паясніў а. Р. Сасна. — Народ наш усе ўрачыстыя моманты адзначаў заўсёды разам з Царквою. Пасля вячэры людзі ідуць у царкву на ўсяночную службу, пасля якой, вярнуўшыся дадому, мусяць управіцца на гаспадарцы і... звычайна адпачыць. Калядныкі, якія ўжо з раніцы пачынаюць абыходзіць сядзібы, уносяць у дом гаспадара радасць і святочны настрой.

— У багаты, як у нас казалася, вечар моладзь гадала сабе. Ну, вядома, было выліванне воску на ваду, але варажба мела і іншыя формы. Мы выбягалі на двор, набіралі колькі хто здолеў пален і заносілі іх у хату. Там жа мы іх лічылі — выйдзе пара, ці не. Або абымалі плот, колькі хто здолее захапіць штыкецін — выйдзе пара, ці не. У багаты вечар праводзіліся і другія штучкі. Калі падгледзелі якога хлопца з дзяўчынай, то прасыпалі попелам сцежку паміж дамамі. Гаспадарам хавалі ўсялякія прылады, так што пазней іх даводзілася і тыдзень часу шукаць.

— Нішто ў традыцыі не бывае выпадковым, — дадаў а. Р. Сасна. — За ўсё ўчыненае ў багаты вечар нельга было гневацца. А значыць, была гэта ўнікальная ў годзе аказія, каб часамі нават і адпомсціць нейкаму сварліваму і непрыязнаму гаспадару і... зацягнуць ягоны воз на дах! Вы, бачу, не надта верыце ў гэта. Запэўніваю, аднак, што воз можна зацягнуць на дах. У частках.

— Я кожны год, — сказала матушка, — падладжваю *гвязду*, з якой ходзяць калядн\u0456кі. Раблю гэта для ўнукаў, якія наведваюць нас з горада. Што ж, усё маладое жыццё туды перамясцілася, а самая багатая традыцыя звязана з вёскай...

— Не трэба, матушка, па гэтым сумаваць, — заключыў рыбалаўскі настаяцель. — Такі парадак жыцця. За традыцыю нашу я спакойны, бо чалавеку без яе не выжыць. У горадзе яна не згубіцца, хоць, зразумела, міне тут некаторы час, пакуль яна ўзбагаціцца на новыя гарадскія формы, развінецца.

**Аляксандр Максімюк**

# Стан самастойнасці

**Размова з Андрэем СЦЕПАНЮКОМ — бурмістрам Бельска-Падляшскага і Васілём ЛЯШЧЫНСКІМ — старшынёю Гарадской рады.**

***— Маё першае пытанне да Васіля Ляшчынскага. Калі гаварылі мы пасля пераможных самаўрадавых выбараў у 1994 годзе, вы гаварылі, што хочаце змяніць стыль працы Рады і Управы горада, стварыць новы падыход да грамадзяніна. Каб людзі адчулі, што ўлада цікавіцца іхнімі праблемамі, што няма малаважных спраў. Ці ўдалося гэта рэалізаваць? Ці праводзіцца рэгулярныя сустрэчы з выбаршчыкамі?***

**Васіль Ляшчынскі:** Я быў радным таксама ў папярэднім скліканні і калі параўноўваю той перыяд з сённяшнім, бачу, што пайшла ў нас большая яўнасць публічнага жыцця. Ранейшая ўлада была таксама з выбару, але адначасна, як быццам памазаная Касцёлам, „Салідарнасцю". Тым самым не падвяргалася адкрытай крытыцы. А да нас людзі пішуць сотні заяў з просьбай аб дапамозе, часта чуем словы: „мы за вас галасавалі, дык патрабуем таго, таго і таго", ніхто не адчувае няёмкасці, калі падыходзіць і кажа: „вы там, сякія-такія, што за дурноты робіце"! Мы ўвялі абавязковыя штотыднёвыя дзяжурствы радных. Абодва бурмістры па два разы ў тыдзень прымаюць наведвальнікаў. Я лічу, што гэта нават замнога, бо перашкаджае ім займацца іншымі справамі.

***— Як выпаўняюцца перадвыбарчыя абяцанні?***

**Андрэй Сцепанюк:** Бельская кааліцыя ішла на выбары пад лозунгам: „Больш разумна, згодна, справядліва!" І такая атмасфера ў горадзе ствараецца.

**Васіль Ляшчынскі:** Але я хацеў бы прыпомніць словы, якія напісаў сабе Клінтан яшчэ ў час сваёй першай прэзідэнцкай кампаніі: „Па-першае, гаспадарка, дурань!"



*Васіль Ляшчынскі.*

**Андрэй Сцепанюк:** Мы абяцалі старацца нанава запусціць зачыненыя нашымі папярэднікамі два вялікія прадпрыемствы: „рашарню" лёну і „Вітаміну", якая перапрацоўвае агародніну і садавіну. Другое прадпрыемства ўжо працуе, першае — прыватызаванае, але новы ўладальнік яшчэ там нічога не робіць. Парадкуем комплексна вуліцы, ад водаправодаў і сцёкавых каналаў уніз па асфальт наверсе, гэта датычыць Відаўскай, Казаноўскага, Нарутовіча і некалькіх меншых вуліц. У гэтым годзе была адкрыта сучасная амбулаторыя на рагу Казімяжоўскай і Ягелонскай вуліц, цяпер у суседні будынак (прызначаны на элегантныя кватэры, але не з'явіліся пакупнікі — М. В.) пераводзіцца Гарадскі асяродак сацыяльнай дапамогі. Усе школы атрымалі сродкі на неабходныя рамонты, таксама Бельскі дом культуры, які чакаў такой нагоды дзесяць гадоў. Каб палепшыць жыллёвае пытанне, пабудавалі мы камунальны блёк на 32 кватэры, у якім абсталявана алейнае ацяпленне. На жаль, далёка яшчэ да развязкі заблытаной справы новай гарадской кацельні.

***— Ці Бельская кааліцыя, з нацыянальных меншасцей і левых палітычных сіл, пойдзе ў наступных самаўрадавых выбарах зноў разам?***

**Андрэй Сцепанюк:** Мусіць! Калі арганізацыі, якія яе стварылі, пойдуць паасобку, яны ўсе разам не будуць мець у Радзе і паловы таго, што маюць сёння. Я тут не маю на думцы абароны сваёй ці старшыні Рады пасадаў. Папросту, тая частка грамадскасці, якая падтрымала Бельскую кааліцыю, перастане мець уплыў на тое, што ў горадзе будзе рабіцца.

**Васіль Ляшчынскі:** У Бельску так склалася, што няма беларусаў у партыях і арганізацыях правага накірунку. Ёсць яны затое ў Саюзе левых дэмакратаў, ва Уніі працы, ёсць нават у Саюзе ўкраінцаў Падляшша. Таму інакш канструяваная кааліцыя, проста, не здасць экзамену. А калі пойдзем паасобку, то на адно месца ахвотных будзе трох праваслаўных і, у рэзультаце, не пройдзе ніхто. На папярэдніх выбарах людзі падтрымалі нас таксама таму, што мы ўмелі дагаварыцца.

***— У Бельску на двух найважнейшых пасадах — беларусы. Апрача Гарадка, гэта адзіная наша перамога на ўсіх выбарах, парламенцкіх і самаўрадавых, ад 1989 года. Тым часам старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янка Сычэўскі ставіць вас у рады сваіх найбольшых апанентаў, зараз за „Нівай". Чаму?***

**Андрэй Сцепанюк:** (пацiскае плячыма) Пэўна таму, што мы нешта робім, не чакаючы дапамогі штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ.

***— А што вы такога робіце на беларускай ніве?***

**Андрэй Сцепанюк:** Хаця б той фэст „Спасаўскія запусты", арганізаваны згодна ўсімі бельскімі беларускімі арганізацыямі, у тым ліку і мясцовым аддзелам БГКТ. У рамках тыднёвага веснавога мерапрыемства „Дні Бельска", выразнае месца займае беларуская культура, прэзентаваная як нашымі, так і запрошанымі калектывамі. Мы даем грошы на дзейнасць „Маланкі" і „Васілёчкаў". Дакладаемся да штораз большай і лепшай „Бардаўскай восені". Апрача гэтага шмат меншых беларускіх мерапрыемстваў арганізуе фінансаваны гарадской казной Бельскі дом культуры. Я хачу зазначыць, што БГКТ не мае манаполії на беларускую культуру. Мы ў Бельску, навыклыя да дзейнасці ва ўмовах лакальнай дэмакратыі, не пагаджаемся на дыктат нейкага цэнтра, які загадваў бы, што мы маем у сябе рабіць.

**Васіль Ляшчынскі:** Бельскае беларускае асяроддзе на фоне Беласточчыны — асаблівае. Мне здаецца, што невыпадкова ўжо ў 1987 годзе студэнты ладзілі свой з'езд якраз у нас. Вельмі важнай школай для нас былі чарговыя выбары. Яны кансалідавалі асяроддзе і навучылі нас саміх думаць пра свае патрэбы. У Бельску няма разыходжання інтарэсаў між беларускімі арганізацыямі. Наш аддзел БГКТ, якога я, дарэчы, старшыня, як першы заснаваў свой асобны ад беластоцкага банкаўскі рахунак, а гэта ж падстава любой дзейнасці. Тое, што я скажу цяпер, можа прагучыць груба: найстарэйшым дзеячам у Бельску цяпер па пяцьдзесят гадоў; тыя, хто мог бы перашкаджаць — паадыходзілі.



*Андрэй Сцепанюк*

***— Не відаць вас на ніводным беларускім мерапрыемстве ў Беластоку. Ці гэта не празмернае пачуццё вашай самастойнасці?***

**Васіль Ляшчынскі:** На ніякі бэгэкатоўскі сход я і не паеду. Навошта? Каб слухаць вывады людзей з іншай эпохі. Я і без гэтага з Сычэўскім дагаваруся. Наконт іншых мерапрыемстваў, то пэўна, або не быў запрошаны, або нешта не выйшла.

***— Наколькі можна выконваць публічную функцыю ў польскай дзяржаве і заставацца беларусам?***

**Васіль Ляшчынскі:** Поўнасцю. Бурмістр усюды, дзе трэба, выступае публічна па-беларуску. Таксама на ўсіх афіцыйных сустрэчах, такіх як восенню з Цімашэвічам, заяўляе, што ён беларус.

***— Але ж у яго кабінеце вісіць Арол, а не Пагоня. У працы карыстаецца польскай, а не беларускай мовай. Дзе менавіта тая мяжа між пачуццём і абавязкам?***

**Андрэй Сцепанюк:** Няма ў мяне канфлікту сумлення. Гаспадарчыя справы датычаць у такой самай ступені ўсіх жыхароў горада, без розніцы нацыянальнасці. А культурныя мерапрыемствы кожны можа сабе выбіраць. Я стараюся, каб беларушчына ў горадзе была прысутная. Для адных яе заўсёды будзе замнога, для іншых — замала.

**Васіль Ляшчынскі:** Нашы людзі крытыкуюць нас, але часта не ведаюць, што робіцца. Я дам толькі адзін прыклад. За пляц пры выездзе на Нарву пад новую царкву Прачысценскі прыход заплаціў некалькі гадоў таму 700 мільёнаў злотаў. А цяперашняя Гарадская рада аддала Міхайлаўскаму прыходу пляц пад царкву і іканапісную школу па вуліцы Дубяжынскай — задарма. Трэба, каб людзі пра такія справы помнілі ў наступных выбарах.

***— Спадар старшыня, вы тут успомнілі Клінтана, а ці помніце, пад якім лозунгам вёў ён другую сваю прэзідэнцкую кампанію?***

**Васіль Ляшчынскі:** Забыўся.

***— Дзякуй вам за размову.***

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

*Фота аўтара*

# Новы час

Снег засыпаў груды, долы
Чыстай, белай коўдрай з неба.
Кругагляд ужо больш вясёлы —
Цішыні ж, пяшчоты трэба,
Каб, пасеўшы ў цёплых хатах,
Усё абдумаць нам, браткове,
І не енчыць больш аб стратах,
Кінуць мроіць пра благое,
А узяцца за работу
З новай сілай і натхненнем...
З дружнай песняй і ахвотай
Новы, добры год сустрэнем!

**Міра Лукша**

# Калядная вячэра

Хутка — вячэра. Дзень адплывае ружовы
За небасхіл, дзе ў зацішку маўчання і стомы
Новы абсяг паўстае, яшчэ вачам невядомы,
У вечных пакутах нязнанай малітвы і мовы.

У шэрым паўзморку, дзе ўтоены жарты і кпіны,
Дзе ліхтары свае сочаць штохвілю ахвяры,
Вэлюмам чорным ахутаны плечы ў хацінаў
І па кутах там памерлых схаваныя твары.

Там — здратаваныя душы ляцяць на шпалеры,
Каб у святочных карунках мілосці і цуду
Зноўку здабыць сваю моц, — свята тайнай вячэры, —
Дзень наш ачысціць ад зла, і ад змроку, і бруду.

**Анатоль Дэбіш**

# Каляда

Студзень ужо не за гарамі,
Насталі злыя халады.
Лясы нібы ўжо пад снягамі,
А мы чакаем Каляды.

Прыўзняты бацька ёлку ставіць.
Гэтак бывае кожны год.
Ў кутку ён жыта сноп паставіць,
Як здаўна робіць наш народ.

Сенам пахучым стол заслалі,
Абрус ільняны, быццам снег,
На ёлцы свечкі загарэлісь,
У хаце ціха, прапаў смех.

Вось выглядаем першай зоркі,
Пакуль пачнем калядаваць.
Дзеці маўчаць, як мыш ля норкі,
Трэба чакаць ім і чакаць...

Вось зорка ў небе замігцела:
— Мама! Ўжо зорка! — ўсе крычым.
А мама ўсё прыгатавала,
На гэты раз хопіць усім.

А на стале — куцця, ды з макам,
Ды з мёдам, ды з арэхамі.
Пасля грыбы, яда ўсялякая,
Хоць посная, ўсё з'елі мы.

Ўрэшце настаў момант чаканы:
Святы Мікола — Дзед Мароз!
Кожны з нас хоча першы глянуць,
Што ў гэты раз яму прынёс.

Ды ўсе пад ёлку заглядаюць,
Ці розгі часам там няма.
На шчасце, ўсе падаркі маюць.
А за акном зіма, зіма...

**„Улас"**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 444

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Тэрэса Занеўская

# Маўчанне і тайніца

У рамках ініцыяванай Беластоцкім аддзелам Саюза польскіх пісьменнікаў Святаянскай паэтычнай серыі надрукавана зборнік вершаў Яна Чыквіна ў польскім перакладзе Францішка Кабрынчука, Эльжбеты Фэліксяк, Крыстыны Канэцкай, Часлава Сэнюха, Мар'яна Юркоўскага і Яна Леанчука. Загаловак кніжкі: *Odpoczynek przy wyschniętym źródle**.

Чытаючы яе, яшчэ раз пераконваюся, што Чыквіна не так лёгка зразумець. Гэта, вядома, не папрок у яго адрас. Для прыкладу кажучы, Норвіду гэтаксама гаварылі, што піша ён „цёмна". Лірыку Чыквіна нельга чытаць паміж абедам і кубкам чорнае кавы. Патрэбна рэфлексіўнасць, а перш за ўсё псіхалагічная сінхронія паміж чытачом і паэтам, тая ж самая частата ўспрыняцця, калі паслужыцца тут паняццямі радыётэхнікі. Чытач павінен увайсці ў тую прастору адчуванняў паэта. Чытач, хаця б на хвіліну, павінен спрабаваць думаць яго думкамі, пакіравацца яго пачуццямі. Прасторы адчуванняў, як кожная паверхня, адна адну пранізваюць або зусім не судакранаюцца. Калі адбываецца тое другое ў нашым кантакце з аўтарам, тады сцвярджаем, што ён нам незразумелы. Што незразумела піша.

У беларускай паэзіі Ян Чыквін належыць да ліку тых нешматлікіх творцаў, якія характарызуюцца высокай арыгінальнасцю і праграмна змагаюцца за гэту непаўторную арыгінальнасць. Сярод „белавежцаў" займае ён вельмі асобнае месца, прыналежнае яму і толькі яму. Хоць, адначасна, на працягу ўсяго свайго творчага жыцця актыўна ўдзельнічае і ў крэацыі самога гэтага асяроддзя наогул.

Творчасць Чыквіна, ягоная паэзія, знаходзіцца на вялікім скрыжаванні культур, розных уплываў. Суіснуюць у ёй Усход з Захадам, яе воблік у роўнай ступені фармуецца пад уздзеяннем Візантыі з аднаго боку, і Рыма — з другога. Аўтар *Odpoczynku przy wyschniętym źródle* належыць і да тых, вось, беларускіх паэтаў, у творчасці якіх знаходзіць свой адбітак еўрапейская свядомасць. Еўропа ўяўляецца паэту накштальт пашыранай роднай зямлі і тлумачыць ён нам, што мінулае трэба разумець, таксама, як сучаснасць. Свет паэтычнай уявы Чыквіна пачынаецца з памяці сужыцця на адной зямлі шматлікіх культур і — натуральна — з супольнае ўсім нам традыцыі колішняе Рэчы Паспалітай. Менавіта Міцкевіча якраз пераўвасобіў паэт у двайніка лірычнага суб'екта ў цыклі санетаў *Святая студня*; самога Чыквіна ў адным з падваршаўскіх літаратурных салонаў (Podkowa Leśna) прафесар Ян Трапіла вызначыў як „беларускага Міцкевіча".

Чытаючы *Odpoczynek przy wyschniętym źródle* пераконваешся яшчэ і ў тым, што Чыквін не толькі ўражлівы лірык, але, можа быць, найперш паэт-філосаф, заглыблены ў праблемы цяперашняга свету, і, разам з тым, грамадзянін свету, якому неабыякавы маральныя канфлікты эпохі. Па-свойму ставіць ён пытанне пра сэнс існавання наогул, а чалавека ў асаблівасці; далей — пра сутнасць быту, часу, свабоды. Думаючы архетыпамі і паслугоўваючыся такімі „словамі-ключамі", як: чалавек, зямля, дом, неба, паветра, вада, агонь — у якасці асноўных элементаў Космасу — дае паэт сведчанне таго, што глыбока адчувае ён сувязь з усёю спадчынай чалавецтва.

Вершы Чыквіна вылучаюцца трагічнасцю праблематыкі часу, зменлівасць і праміnанне якога непакоіць кожнага. З'ява станаўлення, а затым пераходу будучыні ў мінуласць і спараджае той трагізм нашага існавання. Гэта так, але час ва ўспрыняцці Яна Чыквіна набывае і адназначна пазітыўную афарбоўку — стварае чалавеку магчымасць адчуць сябе ў тым вялікім супольніцтве мінулага і будучыні. У яго паэзіі адкрываем сабе новыя абшары — засвойваем праміnанне з усімі наслоенымі ў ім


Мал. Міколы ДАВІДЗЮКА

каштоўнасцямі душы і розуму. Выратоўваем памяць.

Ян Чыквін — нязломны прыхільнік т.зв. чыстай паэзіі, якая настойліва стварае штораз новы свет, замест толькі рэгістраваць існуючы ўжо, найперш фізічна рэальны. Гэта патрабуе ад паэта не столькі ўнутранай напружанасці, колькі змагання з самім сабою. У зборніку *Odpoczynek przy wyschniętym źródle* судакранаемся з самай чыстай рэфлексіўнай лірыкай, па-майстэрску перададзенай чытачу праз пасрэдніцтва ўсякіх медыяў ды масак. Тэматычных матываў у ёй столькі, колькі саміх вершаў. У прынцыпе, аднак, змест гэтай кніжкі ўяўляе сабою штораз іначай фармуляваныя пытанні, якія датычаць галоўных экзістэнцыяльных катэгорыяў. Увесь час Чыквін піша адну і тую ж паэму пра тайніцу існавання. Пра загадкавасць таго.

Чыквін пераконвае чытача ў тым, што паэзія — гэта адчуццё дзівоснасці існавання, дзівоснасці ва ўсім нас акаляючым, нават у звычайным сярод звычайнага кожнаму, у тым, што здаўна ўжо не выклікае аніякай цікавасці да сябе з нашага боку, як і ў тым, натуральна, што прыцягвае нашу цікавасць пакуль што сваёй незвычайнасцю. Чыквін прадчувае, што ў кожным прадмеце прыхаваны метафізічны сэнс яго, і таму варты ён нашага здзіўлення. Гэта таму масцца ўражанне, што кожны верш у зборніку *Odpoczynek przy wyschniętym źródle* нагадвае скок у невядомае, а гэта пазнака высокага мастацтва. Першапраходніцтва.

Хачу абавязкова дадаць, што лірыка Чыквіна нараджаецца, таксама, і ў маўчанні, якое ў роўнай ступені інсіпіруе творчыя памкненні. А пра якое пісаў некалі ў сваім філасофскім эсэ Норвід, заклікаючы шанаваць аддаленасць у самога сябе да тых тайніц, якія чалавек не ў стане спасцігнуць. Маўчанне хавае ў сабе — і пытанні, і загадкі.

Дарэмна спрабоўваем вызваліцца з абдымкаў зямлі і свету, выратавацца ад няўхільнасці лёсу, — тлумачыць нам Чыквін у нагаданых вершах новай яго кнігі. Гэта пастаянны ў яго лірычны матыў. Калі б прасачыць семантычныя адносіны ў ім, акажацца, што выконвае гэта аж некалькі функцыяў, не столькі проста яўныя, колькі менавіта ў сферы здогадаў. Усяляк прыхаваныя, не відочныя на паверхні. Бо, з аднаго боку, прызнае ён падзел рэчаіснасці на дзве часткі — жыццё і смерць — а з другога боку знаходзіцца ў апазіцыі з тым часам смерці. Гэты матыў спалучаецца ў паэта з ягоным неспакоем, з адчуваннем страты грунту пад нагамі, з пачуццём разгубленасці, адзіноцтва. Усё тое ўяўляе сабою нешта кшталтам уцёкаў самога ад сябе, як і адначасовую спробу самасцвярджэння. Дыягназ паэта як аўтара спомненага зборніка суданосіцца найперш з татальным заняпадам духоўных каштоўнасцяў у свеце, ужо паспалітасці зла. Знікаюць тыя грані, азіраючыся на якія чалавек можа этычна самавызначыцца. Лірычны суб'ект гэтых вершаў робіцца сімвалам чалавека канца дваццатага стагоддзя. Адзінокага, заўсёды няўпэўненага, прыгнечанага неспакоем, бяскрылага, блукаючага ў тумане, вандруючага па мяжы рэальнага і нерэальнага. Не ўсё, аднак, страчана. Застаецца яшчэ надзея. З хаосу цемры выблісквае святло, быццам крыніца, якая ніколі не высыхае дарэшты, прынамсі не павінна. Нават на выгляд высахлая адраджаецца, калі вяртаюцца спрыяльныя ёй умовы (так бывае з аднаўленымі лясамі ці лугамі). У нас яшчэ ёсць шанц выратавацца, прызнаючы агульначалавечыя ўніверсальныя каштоўнасці духа.

Дарэчы будзе зазначыць, што ў гэтым зборніку твораў Яна Чыквіна выразна прабіваецца і гістарыясофічны матыў. З песімізмам глядзіць ён на Беларусь, стаючыся паэтам нацыянальнага болю. Пад выглядам сімвалаў хаваецца ягоная туга і жаданне бачыць бацькаўшчыну вялікай духам, розумам і сэрцам, і лёсам сваім. Тым не менш герой яго вершаў, ублытаны ў гісторыю, накіроўвае сваю ўвагу на супольніцтва гістарычнага вопыту, які павінен лучыць народы, што ад сваіх нарадзінаў чэрпаюць з крыніцаў культуры Міжземнамор'я.

*Jan Czykwin, *Odpoczynek przy wyschniętym źródle*. Świętojańska Seria Poetycka pod redakcją Jana Czykwina i Jana Leończuka. Związek Literatów Polskich, Białystok 1996, ss. 38.

Зьніч

## Зіна

*(Другі Брагінскі завулак, 55)*

... у мове бабак і дзядкоў —
на ўскраінах старога Менску —
нібыта сьвецяцца пралескі
пад мулкім сьнегам
новых слоў...

... ня веру байкам дзікуноў —
што Стольны Менск пакіне Мову ...
Яна засьвеціцца нанова
ў пралесках
вершаў і вякоў ...

...скажы, што болей —
верш ці век?..
як хваля, кожны век зьнікае ...
а ў Вершах —
Сэнс вякоў гукае...
і ўваскрасае
чалавек...

Сакрат Яновіч

# Акно

Як толькі перастаў я поўзаць малечаю па хаце і пачаў хадзіць, памятаю акно. Яно вабіла мяне святлом і таемнымі гукамі. Даставаўся я да яго з бядою, але неадступна. Ужо прадчуваў і нават разумеў, што свет не канчаецца ў сенях, і аднекуль заходзяць да нас людзі, цёткі з дарункамі цукеркаў. Мне вельмі хацелася ўбачыць — менавіта — адкуль яны і як; а яшчэ, якія ў іх хаты, бо чуў, што, таксама, маюць свае...

Акно снілася. Тады я вылятаў цераз яго бабульчыным анёлам і зачараваны прынюхваўся месяцавай бондзе з пахамі велікоднага пірага. Зоркі, калі спрабоўваў лізнуць каторую, прынаджвалі смакам ландрынак. Не баяўся вышыні, не ведаючы, што такая ёсць.

Прачнуўшыся, жальна плакаў. Пакуль прыйшла вясна і мацерка вывела мяне на сонца.

На падворышчы я разгубіўся, бы зайчаня, што адбеглася ад гнязда пад мяжою ў шырокае поле. Першае, што ўгледзеў быў з пярэпалаху — гэта куры з пеўнем і парасяты, што смачна прысмакталіся адно каля аднаго да цыцак рохкаючай мацёры. Моцна здзіўлены, я не спадзяваўся, каб намаляваныя ў дзіцячай кніжцы тыя стварэнні напраўду жылі! Пасля дзівіўся што ні дзень усё чымсьці іншым, урэшце пажарам стадолаў ад грымотнага гневу Бозі.

У травень з чэрвенем ды ў ліпень са жніўнем, гуляючы не выходзіў з сенакоснае аселіцы з капуснымі загонамі, над якімі мільгацелі бялюсенькія матылі. Азіраўся на нашу хатку з рассмяяным акном, рагатліва расчыненым, і ветрык навейваў адтуль попахі смажаных скварак з цыбуляю... Тлусты арамат у перадабедак, калі вядома, што вось дакіпае рассыпістая бульба і ўжо адстаўлена з агню пад фаеркамі пліты гарачая страва з маладзістага шчаўю і з скабкаю свінога мяса. Ад прыступу першабытнага голаду, які магчымы толькі ў таго, хто расце і дужэе, гнаўся з архетыпным крыкам: „Мама, я хачу есці!"

# Позірк у мінулае

**4 студзеня**

1809 г. — нар. Луі Брайль, (памёр 6 студзеня 1852 г.), французскі настаўнік невідучых. Сам страціў зрок у тры гады і ў 1818 г. падкідышам апынуўся ў Нацыянальным інстытуце невідучых у Парыжы. Там выявіўся яго талент у навуцы і музыцы: ён лічыўся вядучым парыжскім арганістам і віяланчэлістам. У 1829 г. ён мадыфікаваў код вайсковай сігналізацыі, ствараючы такім чынам алфавіт для невідучых, які ўжываецца па сённяшні час.

**5 студзеня**

1876 г. — нар. Канрад Адэнаўэр, у Кёльне, нямецкі палітык. Вучыўся ў універсітэтах Фрэйбурга, Мюнхена і Бона. У 1917—33 гг. быў мэрам Кёльна. Выступаў супраць нацызму, і калі Гітлер дайшоў да ўлады ў 1933 г., мусіў пакінуць сваю пасаду. У 1944 г. папаў у канцлагер, адкуль вызвалілі яго альянты. У 1945 г. заснoўваў ЦДУ і стаў яе лідэрам у брытанскай акупацыйнай зоне. Пасля паўстання ФРГ ён, як не звязаны з нацыстамі антыкамуніст, стаў яе першым канцлерам і аставаўся ім 14 гадоў. У ягоны час ФРГ была запрудай камуністычнай экспансіі ў Еўропе. Ён адкідаў усялякае збліжэнне з ГДР, утрымоўваў цесныя сувязі з ЗША і Францыяй. Памёр 19 красавіка 1967 г.

**6 студзеня**

1822 г. — нарадзіўся Генрых Шліман, нямецкі археолаг, які лічыцца адкрывальнікам старажытнай Грэцыі. Будучы дзіцём, захапляўся паэзіяй Гамера. У 14-гадовым узросце фармальна законччыў адукацыю і заняўся гандлем бакалейнымі вырабамі. Большасць інтарэсаў праводзіў у Пецярбургу, дзе і збіў байкаваты маёнтак. У 1863 г. кінуў гандаль і прысвяціў сябе і сваю маёмасць пошукам сваіх дзіцячых летуценняў. Праводзіў раскопкі Троі (1871 г.), Мікен (1876 г.), Ітакі (1878 г.) і другіх месцаў. Памёр 26 снежня 1890 г.

**8 студзеня**

1589 г. — нар. Іван Гундуліч, харвацкі паэт. Яго паэтычнае майстэрства высока цанілі ягоныя сучаснікі, як і наступныя пакаленні. Напісаў драмы *Клеапатра, Дубраўка* і *Празерпіна*, ды паэму *Асман*, у якой выступілі элементы славянскай ідэі.

**11 студзеня**

347 г. — нар. Феадосій Вялікі, апошні імператар адзінай Рымскай імперыі. Народжаны ў Іспаніі, маладыя гады правёў у Брытаніі, дзе ваяваў яго бацька. Калі ў бітве супраць візіготаў пад Адрыянопалем у 378 г. загінуў усходні аўгуст Валенс, імператар Грацыян назначыў Феадосія на яго месца. Феадосій быў рашучым прыхільнікам праваслаўнай Царквы, праследаваў арыян і змагаўся супраць культу старых рымскіх багоў. У 381 г. склікаў ён у Канстанцінопаль другі ўсяленскі сабор. Пасля яго смерці 17 студзеня 395 г. Рымская імперыя была падзелена на ўсходнюю і заходнюю часткі. Апошняя дата лічыцца пачаткам візантыйскай дзяржаўнасці.

532 г. — у Канстанцінопалі ўспыхнула паўстанне „Ніка”. На іпадроме імператару Юсцініяну былі прадстаўлены скаргі гараджан на ягоных чыноўнікаў з жаданнем іх пакарання. Юсцініян адмовіў і ў адказ на гэта ўспыхнула паўстанне, якое ахапіла горад і прыгарады. Доўжылася яно пяць дзён і было з вялікай жорсткасцю падаўлена палкаводцам Велізарыем; лік забітых склаў каля 30 тысяч. **(Ш)**

# Парнасік

### З Новым годам!

Пажаданні ў новым годзе
Усяму я шлю народу,
Што ў дзяржаве пражывае.
Няхай усе здароўе маюць,
Каб шчаслівa ў Новым годзе
Дружна і весела жылі,
Каб жыццём радаваліся
І багатымі ўсе былі.
Каб бяды ніхто не ведаў,
І жыццём каб весяліўся,
А ў свята і нядзелю
Шчыра Богу памаліўся.
Каб забылі пра бяду,
Грызні, сваркі і нядолі,
Дружна каб усе жылі
І не знaлі кепскай долі.
Я таго ўсім вам жадаю,
Жывіце ўсе шчасліва,
У жыцці каб вашым
Усё было вам міла.
Будзьце вы здаровы
Ды радасна жывіце,
Каб ужо ніколі
Не было вайны на свеце.
Нашы дзеткі і ўнукі,
Каб шчаслівымі былі,
Добра каб успаміналі,
Што мы мір стварылі.

**Мікалай Лук'янюк**

### Родная мова

Беларускую мову,
Адкуль яе знаю,
Сваю родную мову
Заўсёды кахаю.
Беларускай мовы
Навучыла мяне маці.
Знаю гэту мову
Ад малога дзіцяці.
Калі дзіцём я быў
І казаў першыя словы,
Яны пачыналіся
З беларускай мовы.
Да гэтай пары
Я словы памятаю;
Дзе б не бываў,
Ніколі не забываю.
Трэба памятаць,
Дзе нарадзіўся,
Каб роднай мовы
Ніколі не забыўся.
З роднаю мовай
Рэдка сустракаемся —
Гаварыць па-свойму
Часта ўстыдаемся.
Не трэба саромецца,
А шчыра любіць —
Сваю родну мову
Трэба бараніць.

**Мікалай Пучко**

### Сны

Сняцца сны кашмарныя —
Яны марныя.
Дрэнны сон збудзецца,
У вачах адбудзецца.
А калі ён *точны*,
Дык больш злосны.
Будзь асцярожны вельмі,
Бо можа быць вынік дрэнны.
Рваць зуб — страта;
Асцеражы сястру, брата.
Гаворыць аб смерці —
У гэта паверце!
Класці гной — хвароба
І цяжкая дарога.
Якая можа давесці да руіны
Калі чалавек больш пахілы.
Крумкач крычыць —
Да нас смерць бяжыць.
Таксама варона —
Гэта магільная карона.
Сніцца гліна —
Гэта сухая каліна:
Скора згарыць —
Гэта ў неба дарогу адбыць.
Піць дэнатурат — няшчасце;
Будзьце на варце!
Таксама разбіраць вепрука —
Гэта выпадак, адна рука.
Сны асцерагаюць.
Мо каго развесяляюць...
Ды сцеражонага сцеражэ Бог:
Перадумай, калі прылёг.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, прысніўся мне „цяжкі” сон, я прачнулася змучаная. А вось як было. Гоніць мяне, душыць мой былы швагер. Мы з ім б'емся, я вырываюся. Мая сястра развялася з ім, быў гэта нікчэмнік. Далей я ўжо недзе ў пагранічнай краіне... сa мной мая колішняя сяброўка (яна даўно памерла). Мы хочам выйсці адтуль. Бачым невялікае акенца: праз яго мы выскачылі на панадворак.

І яшчэ адно. Нейкі злодзей вырваў у мяне сумку. У сумцы было многа доляраў. Я яе шукаю. А тут бачу нейкую каляску, а на ёй мая сумка. Я схапіла яе. Хачу паклікаць паліцыю. І тут жа той злодзей. Просіць, каб я не паведамляла ў паліцыю. І за гэта ўпіхае мне ў руку 20 доляраў. Але яны былі старыя, памятыя. Мае долары былі новыя, прыгожыя. **Гражына**

Гражына! Што датычыцца твайго першага сну, дык ужо толькі тое, што прысніўся табе твой былы швагер-нікчэмнік, магло б абазначаць для цябе нешта кепскае. Але ж, сама падумай: ён цябе гнаў, душыў, біў, а ты ад яго ўцякала. А гэта — не давядзі Гасподзь! — нейкая не толькі непрыемнасць, але і небяспека. Можа быць нейкае небяспечнае падарожжа, якое выявіцца ў суадносінах са шваграм. Дае надзею на выйсце з сітуацыі тое, што вам удалося выскачыць з пограба праз тое акенца.

І другі сон не прадвяшчае добрага. Сніць злодзея — гэта небяспека, страта, варожасць. А яшчэ ж тыя памятыя долары. Няўхільна твой другі сон пацвярджае ўсю сутнасць першага.

Мусіш добра прадумаць свае планы на будучыню. Памятай, сны папярэджваюць. **Астрон**

# Шчырасць — вялікі літаратурны дар

Як ведаем, польская паэтэса Віслава Шымборска нядаўна атрымала найвышэйшую літаратурную ўзнагароду — Нобелеўскую прэмію. Да нядаўна жыла яна як бы ў цені, а тут такі гонар! Нядаўна прачытаў я некалькі яе вершаў, і, хаця я ніякі літаратурны крытык, магу смела сказаць, што яны сапраўды цікавыя, прыгожыя і лагічныя, усё ў іх на сваім месцы. Гэта адно, а другое — яна шчыры і скромны чалавек — такая, як і ўсе людзі; з тою толькі агаворкай, што Бог даў ёй вялікі талент. Яе словы простыя, нявінныя, быццам сарамлівыя. І напісала яна толькі дзевяць невялікіх томікаў паэзіі, але свет убачыў у іх вялікую вартасць. І таму мяне, беларуса, цешыць гэтае высокае прызнанне польскай паэтэсы. **Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. адначасовы выстрал з некалькіх гармат, 8. малочны выраб, 9. біблейны прарок-цудатворац, 10. музей у Парыжы, 11. у бусла — чырвоная і доўгая, 13. муж Пенелопы, 15. заражэнне, 16. жаночае імя, 20. мясцовасць, дзе знаходзіцца літоўская АЭС, 22. беластоцкі гетман, 23. радзіма 13, 27. красамоўства, 29. чорна-белая птушка, 30. чарада авечак, 31. транспарт у шматпавярховым доме, 32. дзяржава ва Усходняй Афрыцы, 33. вялікі камень, 34. авечаня.

**Вертыкальна:** 1. раздзяленне на часткі, 2. горад між Гомелем і Бабруйскам, 4. маленькі талісман, 5. прыправа з горкім смакам і моцным пахам, 6. краіна з Дамаскам, 7. напісаў „Людзей на балоце”, 12. займаецца аналізам, 14. раздзел механікі, які вывучае рух цел, 16. двухколы воз у Сярэдняй Азіі, 17. дзяржава з Багдадам, 18. сталіца Перу, 19. мэбля для вопраткі, 21. прыбор для прыёму гукавых хваляў у вадзе, 24. мясцовасць над возерам Ван (Турцыя), 25. беларуская гімнастка, 26. пастух авечак, 27. раскацістыя гукі, 28. паміж грудзьмі і клубамі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 46 н-ра:**

**Гарызантальна:** тхор, кулак, Асмара, град, рычаг, Нарвік, прасфора, Бісау, Манголія, трымаран, нітка, лістапад, сабака, лыжка, маіс, мікроб, Вісла, атам.

**Вертыкальна:** Пучыні, канапа, Хірасіма, радно, хмара, армія, грузавік, арыгінал, боты, стык, плот, мята, Антаніна, ідылія, куколь, Талін, лаўра, самба.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

**Міні-даведнік:**
**Татван** — горад у Турцыі.

Ніва

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Грэшніца

*Я — маладзенькая травінка,*
*Грэшніца гэтага свету,*
*Саграшыла словам і ўчынкам...*
**Ірына Свентахоўская**

Я — травінка пры дарозе
Кожны дзень сабе грашу:
Ці то ў жыце, ці на возе,
Ці дзе хочаш саграшу.
Свет без грэшніц не бывае,
Як травінка без дажджу.
Я прыгожага чакаю,
Я прыгожага хачу!
Дзеўка я яшчэ нічога —
Паспрабуеш — не заснеш:
Ці на стозе, ці ля стога,
Ці з мышамі у гумне.
Раней словамі грашыла,
Толькі словы, нібы дым.
А калі была з грашыма —
Саграшыла з маладым.
Дражняць грэшніцаю людзі,
І няхай сабе, няхай.
А далей? Далей што будзе...
Засумуеш — прыязджай!..

**Сяргей Чыгрын**

## Радкі з сачыненняў

Навагоднія вершы сучасных паэтаў заўсёды пахнуць лесам, ялінкамі і каньяком.

На Новы год Янка Купала і Якуб Колас любілі выпіць на брудэршафт.

Наташа Растова любіла Новы год таму, што ёй не трэба было гадзінамі выстойваць у чэргах крамаў па прадукты.

Каб Пушкін штодня жаваў „Снікерс”, то заўсёды быў бы ў гуморы і хутчэй за ўсё на дуэль не паехаў бы.

Хемінгуэй навагодняе свята сустракаў у Іспаніі, на Кубе, у Афрыцы і іншых „гарачых кропках” разам з першай, другой і трэцяй жонкамі.

Нават і на Новы год Джэймс Джойс пісаў чарговую старонку свайго знакамітага „Уліса”.

Аляксандр Грын на Новы год фантазіраваў аб тым, што, нарэшце, у новым годзе за ягоную апошнюю кніжку заплацяць вялікі ганарар.

Каб на ўроках літаратуры я не гуляў у „крыжыкі-нулікі”, то ведаў бы яе лепш за лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі.

*„Вожык”*

Мал. В. ДУДКІ



## Savoir-vivre для нашых бізнесменаў

1. Рабі добры выгляд. Найчасцей прытварайся, што чытаеш „Financial Times”; правер толькі, ці не трымаеш яго дагары нагамі.

2. Дбай аб сваім выглядзе. Твае ўлюбёныя белыя шкарпэткі насі толькі тады, калі з прычыны забруджання дасягнуць яны густоўнага адценку цёмнай шэрасці — тады яны будуць асабліва элегантныя.

3. Дбай пра мову! Уваходзячы ў супольку з Кавальскім, не абвяшчай, што савакупляешся з ім.

4. Замест улюбёнага слоўка на „к” ужывай „куртызана” — значыць тое ж, але гучыць больш вытанчана.

5. Прымі на працу перакладчыка. Адзін жа ж не растлумачыш контрагенту са ЗША, што на Беласточчыне значыць „мэлён” ці „банька”.

6. Як найчасцей укідай у размову словы *бызнэс, манэй, калькулейтэр, комп'ютэр, віскі, імідж, май фірм, акшн анд облігэйшн* і іншыя, вядомыя з амерыканскіх фільмаў.

7. Супольніка заўсёды прапускай наперад — такім чынам абаронішся ад таго, хто пажадае табе ўбіць нож у спіну.

8. Сапраўдны бізнесмен — заўсёды пад гальштукам. Беластоцкі — носіць яго ў задняй кішэні джынсаў.

9. Ніколі не расставайся з сотавым тэлефонам. Пакладзеш яго побач, і адразу ў цябе яго свіснуць, бо ты ж ведаеш, колькі каштуе такая цацка!

10. У кампаніі ніколі не шморгай носам, бо могуць падумаць, што ты штосьці знюхаў і ўцякуць. Замест насоўкі можаш ужываць двухмільённы банкнот.

**(лук)**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Размаўляюць два калегі:

— Подлая! Прысягала, што выйдзе за мяне ды парвала са мною...

— Не гаруй! Мая яшчэ горшая: прысягала, што за мяне выйдзе і стрымала слова.

* * *

— Маю клопат: хачу купіць жонцы кветкі ў гадавіну шлюбу ды не помню даты.

— Шчаслівы ты! Я даты свайго шлюбу не забуду да смерці.

* * *

— Здароў! Чуў я, што ты ажаніўся.”

— Ажаніўся.

— Мусіш быць шчаслівы!

— Мушу...

* * *

— Жаніцьба нічога не змяніла ў Андрэевым жыцці; як піў, так і п'е.

— Памыляешся: даўней піў дзеля прыемнасці, цяпер — з жалю.

* * *

— Здароў, Андрэй! Твая жонка мусіць быць вельмі ашчаднай.

— А што; відаць гэта па ёй?

— Не, па табе.

* * *

— Мая жонка, калі вечарам вяртаюся з працы, ужо з парога памагае мне зняць паліто, боты і падае рукавічкі.

— Навошта табе дома рукавічкі?

— У рукавічках лягчэй мыць посуд.

* * *

— Ведаеш хто з'яўляецца найбольшым аптымістам?

— Ну?

— Дырэктар, які жэніцца са сваёю сакратаркай.

— Чаму?

— Бо думае, што надалей будзе ёй дыктаваць!

* * *

— Што я бачу! Дапамагаеш сваёй жонцы пры сціцы...

— Зразумела; за гэта яна дапамагае мне штовечар пры мыцці посуду.

* * *

— Скажы шчыра, ці за тваёю жонкай заўсёды апошняе слова?

— Бывае, што засынае раней за мяне.

* * *

— Пан маршалак, — скардзіцца ў Сейме міністр фінансаў, — гэта скандал: калі я запрапанаваў палітыку зашморгвання пояса, паслы паказалі мне языкі.

— Бо гэты пояс ужо ў іх на шыі.

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Усе цешацца, што прыйшоў Новы год, віншуюць адзін другога з новым шчасцем. А мне неяк ва ўсёй гэтай святочнай атмасферы маркотна. І можа нават няма дзеля гэтага асаблівай прычыны, але вось сумна мне — і ўсё.

Мае сяброўкі ўжо нават замужнія, а мне хутка трыццаць, і я ўсё яшчэ адна. Але ці ж можна верыць мужчынам, калі ўсе яны — падлюгі... Ужо ж мы гаварылі з маім хлопцам нават пра шлюб. Бацькі так цешыліся. А дзіва? — чатыры ж гады „хадзілі”. Ты напэўна скажаш, што „хадзілі” і „перахадзілі”! Не, што датычыць маёй асобы, дык я напэўна не „перахадзіла”. Бачыла толькі яго як майго будучага мужа, іншага не ўяўляла. Нават мела нагоду паехаць на працу ў Германію, на вельмі выгадных умовах, але адмовілася, бо хацела быць разам з ім, адзіным хлопцам з маіх сноў.

А ён паехаў. Праўда, ненадоўга, усяго на тры месяцы, і не так далёка, бо толькі ў Варшаву. Ці можаш ты ўявіць сабе, як мне было сумна і цяжка без яго? Пару разоў ён прыехаў у Беласток, вядома, сустрэліся, было цудоўна. А пасля ўжо толькі званіў.

А тут мяне накіроўваюць у камандзіроўку ў Варшаву. Ну, думаю, тут і козыр у рукі. Ведаеш, як я ўцешылася?! Аж у сэрцы нешта ёкнула. Адрас, дзе заквартаравалі майго хлопца, быў мне вядомы.

У Варшаве я адразу афармліла справы, а толькі к вечару звольнілася і еду да яго. Пакуль дацягнулася на трамваі, было ўжо позна. Смела іду ў яго пакой. Стукаю. На парозе паяўляецца ў трусах (ужо спіць?) мой хлопец, а з-за яго пляча бачу раскіданую пасцель, а ў пасцелі бландзінка з доўгімі валасамі.

У мяне пацямнела ў вачах, але я ўвайшла ў яго пакой. Вядома, не вытрымала. Крыху сабе пакрычала і паплакала. Звычайная хамка, падсумавала мяне бландзінка. А яна то хто? — падумала я. Ёй дык можна? Бр-р, не хачу ўжо вяртацца да той справы. Кінула я гэту сволач з яго бландзінкай і паехала, плачучы, дахаты.

Не ўдалося яму мяне перапрасіць, колькі ні маліў, ні прыходзіў да мяне, калі вярнуўся дахаты. Знаць яго не хачу! Непатрэбны мне такі здраднік. Гэта было летам. А цяпер я пазнаёмілася з новым хлопцам. Таксама, як той, прыгажун, статны. Сэрцайка, зразумей мяне, я ўжо іх баюся, гэтых „цудоўных” хлопцаў. Ці з такога можа быць добры муж, калі кожная дзеўка гатова раскладаць перад ім ногі?!. Ці варта пачынаць, калі ўсё можа (а нават гэта вельмі верагоднае) паўтарыцца ад пачатку?!

А зрэшты, Сэрцайка, ты ж само калісь пісала, што каханне, яно такое хітрае: прыходзіць і адыходзіць, дык ці варта пакахаць гэтага хлопца? А мо лепш ужо проста шукаць нейкага канкрэтнага кандыдата на мужа, хоць бы і не быў ён такі статны і прыгожы?.. Мо з ім мне не было б так радасна і ўзнёсла, але было б прынамсі спакайней і па-людску...

**Івона**

Івона! Менавіта таму, што мы — людзі, мусім дбаць пра свае пачуцці. Не пакахаеш па заказу ды і ніколі невядома, ці не пакахаеш нягодніка: гэта ж латарэя! Але прынамсі ёсць пачуцці. Не ўяўляю, як гэта можна разлажыць, як ты кажаш, ногі перад чалавекам, які табе зусім абыякавы, а проста мог бы быць добрым мужам... Гэта ж прафанацыя! Мо тады лепш застацца з бацькамі? Жыццё ўсё ж адно, і варта яго выкарыстаць дзеля сапраўднай радасці.

**Сэрцайка**